Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск




# рэгіянальная газета




11 студзеня 2002 года

№ 2 (351)
Выходзіць па пятніцах

## Навіны рэгіёна

### Шукаюць таленты

**ВАЛОЖЫН.** На школьных канікулах упершыню ў раёне прайшла экспрэс-алімпіяда сярод вучняў 5–8 класаў па матэматыцы. Гэта было ў рамках праграмы "Адораныя дзеці". Каманда кожнай школы складалася з трох вучняў. Прызавыя месцы размеркавалі школы райцэнтра: першая была СШ №2, другая – гімназія, трэцяя – СШ №1. Мэта экспрэс-алімпіяд – як мага раней выявіць таленавітую моладзь. Пераможцаў і прызёраў уключылі ў абласны банк дадзеных упраўлення адукацыі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Зноў першы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Вучань адзінаццатага класа Чысцінскай сярэдняй школы **Павел Раага** заняў першае месца ў раёне і вобласці на алімпіядзе па беларускай мове. У мінулым годзе ён узяў абсалютнае першынство на рэспубліцы.

Сям'я Раагаў пераехала ў Чысць з Літвы. З другога класа Паша вывучае беларускую мову. Дапамагае яму настаўніца **Ганна Скапец**. Калі "мовазнаўца" трапіць у пяцёрку лідэраў на рэспубліцы, ён стане студэнтам БДУ або педагагічнага інстытута імя Максіма Танка.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Свята «Сваякоў»

**ВАЛОЖЫН.** На Каляды ў Доме культуры адбыўся канцэрт гурта народнай песні "Валожынскія сваякі". У двух аддзяленнях гучалі беларускія, рускія і ўкраінскія песні, прыпеўкі і байкі. Падчас перапынку праводзіліся розныя гульні, а напрыканцы выбіралі лепшую цешчу. Ёй стала **Яўгенія Хількевіч** з Валожына. "Сваякі", колькасць якіх 8 чалавек (узрост ад 5 да 40 год), спяваюць ужо 5 год і аб'ездзілі амаль усю Мінскую вобласць.

У новым годзе гурт плануе змяніць імідж. Вось што гаворыць кіраўнік **Аляксандр Шаўчэнка**:

– Цяпер мы будзем выконваць песні ансамбля "Залатое кольца", каб людзям было весялей ды і нас памяталі.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

### Нарадзіўся ў кашулі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Амальневерагоднае здарылася вечарам 4 студзеня на дарозе Чысць-Плябань ля вёскі Ракуцёўшчына. Чалавек, які ляжаў на праезнай частцы, аказаўся паміж колаў рэйсавага аўтобуса "Краснае–Ільля" і не атрымаў значных пашкоджанняў. Толькі невялікі удар цемянна-патылічнай вобласці.

Здарэнне адбылося ў 18-20. Аўтобус рухаўся з хуткасцю 50-55 кіламетраў у гадзіну. Насустрач ехаў "Опель", які асляпіў вадзіцеля аўтобуса бліжнім святлом фар. З правага боку ляжаў нейкі прадмет, прысыпаны снегам. Гэта быў 41-гадовы п'яны мужчына. Потым спыталіся, ці баліць яму што. Ён адказаў, што не. А пасля даў тлумачэнні работнікам ДАІ. Ён выпіў у Чысці бутэльку віна і ішоў па дарозе дадому. Пасля ўпаў і заснуў. Прачнуўся толькі пасля таго, як пабываў пад коламі аўтобуса.

**Уладзімір ЛУКАШЫК.**

### Менш шлюбаў, менш дзяцей

**МЯДЗЕЛ.** З кожным годам усё менш дзяцей нараджаецца ў Мядзельскім раёне. Летась – 263, а ў 2000 годзе – 300. На 28 менш у мінулым годзе зарэгістравана шлюбаў (165). Адно, што памерла людзей меней – 696 супраць 755 у 2000 годзе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Чорнае на белым

**АШМЯНЫ.** Перад навагоднімі святамі мясцовыя памежнікі прыўзнялі настрой сабе і сапсавалі яго 8 жыхарам афра-азіяцкага паходжання. Жанчыны спрабавалі нелегальна перайсці беларуска-літоўскую мяжу паблізу пункту пераходу "Каменны Лог". Неўзабаве замест еўрапейскіх краін паедуць да сябе на радзіму. Памежнікі гэта называюць дэпартацыяй.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 12 студзеня**

**Мінск**
-5 – -3°С (уначы)
-1 – 0°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
1°С (удзень)



**Нядзеля, 13 студзеня**

**Мінск**
-6 – -4°С (уначы)
-3 – -2°С (удзень)



**Вільня**
-4°С (уначы)
-1°С (удзень)



# Зіма-чараўніца



Фота IREX/Promedia.

Зімы з такім вялікім снегам і такімі моцнымі маразамі не было даўно. Аднак слупок тэрмометра не ўтрымліваўся на 20–29-градуснай адзнацы больш за суткі. Імкліва прыходзіла пацяпленне. Зіма сёлета пераменлівая, як настрой чалавека.

Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

## Куды пайсці вечарам?



**Анатоль Чура, тавазнаўца:**
– Моладзь ходзіць у "Рыф". Зімой я іду дадому, а летам можна адпачыць на прыродзе.



**Таццяна Макей, настаўніца:**
– У горадзе шмат бараў і кафэ. Сустракаюся з сябрамі на свята, а з дзецьмі ходзім у парк ці гуляем па горадзе.



**Уладзімір Хурсан, вучань СШ:**
– Я іду гуляць у камп'ютэрны клуб. Бывае, ідзем з сябрамі на вуліцу.



**Артур Аскірка, навучэнец ПТВ:**
– Па вечарах сустракаюся з сябрамі. Падабаюцца дыскатэкі, напрыклад, "Рыф".



**Вікторыя Безлянская, фельчар хуткай дапамогі:**
– Не ведаю, але можна ў тэатр ці ў басейн. У мяне няма часу, каб куды-небудзь хадзіць. На рэстараны патрэбныя грошы, ды і кантынгент не заўсёды адпавядае.



**Таццяна Герасімовіч, хатняя гаспадыня:**
– Раней хадзіла на дыскатэкі або ў бар. Але сёлета выбіраюся не часта, увесь час адбірае малое дзіця.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Вольга ПІЛІПЕНКА і Юрый КАРПІЦКІ.**

■ З ІНТЭРНЕТ-ПОШТЫ

## Ліст з-за акіяна

Паважаныя работнікі "Рэгіянальнай газеты"! Шчыры дзякуй вам за вашую працу. Воляй лёсу я апынуўся ў ЗША, жыву тут ужо 8 год, скардзіцца няма на што. Дзякуючы вам, molodechno.by і molodechno.com, я ведаю што робіцца ў Беларусі і асабліва ў Маладзечне. Згадзіцца з усім не магу: не разумею, з якога боку глядзець на "товарища Лукашенко". Хацелася б болей знаць як жывуць нашы школы (я былы вучань СШ№ 7). Падабаецца Ваша рубрыка "Экспрэс-апытанне" (можа, калі ўбачу каго з родных або сяброў). Хацелася б болей здымкаў.

**Аляксандр РАМАНОЎСКІ, Suffield, CT, ЗША.**

## Журналісцкая прэмія

**АСТРАВЕЦ. Учора ўручылі прэмію Гродзенскага аблвыканкома "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва" імя Аляксандра Дубко.**

Лаўрэатам у галіне журналістыкі стала галоўны рэдактар газеты "Астравецкая праўда" **Ніна Рыбік**. Акрамя дыплома, яна атрымае 25 мінімальных заработных плат.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Пабудавалі школу-садок

**СМАРГОНЬ. У райцэнтры пабудавалі сёмую па ліку школу, якая была даўгабудам.**

Праект распрацавалі яшчэ ў савецкія часы. На мінулым тыдні прыязджала першая прыёмачная камісія, якая адобрыла яе цяперашні стан.

Гэта будзе школа на 160 месцаў. Акрамя таго, там будуць 6 дашкольных груп, якія плануецца засяліць у сакавіку. Школа-садок будзе мець свой плавальны басейн.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ МЕДЫЦЫНА

# Маці – гэта першы зямны сусвет дзіцяці

**МАЛАДЗЕЧНА. Вы калі-небудзь чулі пра перынатальную псіхалогію? Гэта новы накірунак, які вывучае псіхалагічныя працэсы ўнутрывантробнага развіцця дзіцяці і іх уплыў на фізічнае і псіхалагічнае здароўе будучага чалавека.**

Летась у Маладзечне смяротнасць перавысіла нараджальнасць у 2,5 раза. Што здарылася з нашым грамадствам?

Урач спецыяльнага прыёму па бясплоднасці і невыношванні **Мая Мароз** лічыць, што жанчыны развучыліся прыджаць і далёка не ўсе думаюць пра будучыню:

– Мы марым пра новае пакаленне. Для гэтага патрэбна выхаваць новых бацькоў, якія стануць сапраўднымі прафесіяналамі ў галіне бацькоўства. Пакуль мы яшчэ не маем такога выхавання. Большасць жанчын баяцца раджаць, а аднадзённая кансультацыя не адказвае на ўсе пытанні, і часам жанчыны застаюцца самнасам са сваімі трывогамі і жахамі. Бо не ведаюць, дзе шукаць адказы. Вялікая роля і мужчын, якія павінны зразумець сапраўдную ролю бацькі.

Сёння гуманізацыя родаў хвалюе ўвесь сусвет, і паступова пачынаюць мяняцца адносіны да цяжарнай жанчыны. Гэтыя перамены абмяркоўваюцца на традыцыйных канферэнцыях па перынатальнай псіхалогіі і псіхатэрапіі ў Санкт-Пецярбурзе. Два гады запар у іх бярэ ўдзел і Мая Мароз. Яна стала першай у рэспубліцы, хто скончыў завочна-вочныя курсы Міжнароднага інстытута псіхалогіі і кіравання і атрымала сертыфікат перынатальнага псіхолага. А штуршком да гэтага быў успамін з юнацтва: калі яна была на стажыроўцы, пры родах загінула дзіця з-за таго, што жанчына не была дастаткова падрыхтаваная. Перынатальная псіхалогія займаецца комплексным выхаваннем дзяцей і бацькоў. І, напрыклад, загадчыца кафедры практычнай псіхалогіі піцерскага інстытута **Наталля Каваленка** мяркуе, што ад гэтай спецыяльнасці залежыць будучае чалавецтва. Сама Мая Мароз лічыць, што пачынаць выхоўваць бацькоў трэба са стварэння школы свядомага бацькоўства, з супрацоўніцтва медыцыны, псіхалогіі, педагогікі, для якіх гэта будзе ўсеагульнай справай і клопатам:

– Я мару пра цэнтр перынатальнай культуры або школу бацькоў "Надзея" у Маладзечне. Мне вельмі падабаецца цэнтр "Бацька, маці, я" у Каўнасе. Пачынаючы з садкоў, калі дзеці лёгка адгукаюцца на прыгожае, ідзе выхаванне ўзаемаразумення паміж мужчынай і жанчынай. Усе хлопчыкі і дзяўчынкі – будучыя бацькі, і ад іх паводзін залежыць лёс будучага чалавецтва. Яшчэ працуюць школы для маладых, аздараўленчыя гурткі для цяжарных, дзе яны атрымліваюць музычнае, творчае і фізічнае развіццё. Пасля родаў можна прыходзіць у сямейныя клубы. 7-гадовы досвед паказаў, што дзеці, якія выхоўваліся ў цэнтры, менш агрэсіўныя, разумеюць і могуць шанаваць прыгожае.

Наш раддом заўсёды быў наватарам. У Маладзечне адным з першых у рэспубліцы створаныя сямейныя і асобныя радзалы.

– Нашыя дзеці, якія нараджаюцца ў новым тысячагоддзі, не зусім звычайныя. Спадзяюся, яны будуць больш таленавітыя за нас, але іх жыццё залежыць ад выхавання, якое павінна пачынацца да зачацця дзіцяці, – зазначае Мая Мароз. – Пра гэта ў нашых наступных размовах.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Мая Мароз. Нарадзілася 1 мая 1944 года на Украіне. У Беларусі – на радзіме бацькі – з двухгадовага ўзросту. Базавую адукацыю атрымала ў Мазыры. У 1960 годзе скончыла Мазырскае медвучылішча, у 1970 – Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут. З 1974 года працуе ў Маладзечанскім радзільным доме. Маці трох дзяцей.**

■ ЭКАЛОГІЯ

# Бясплатныя экалагічныя кансультацыі

Працягласць жыцця чалавека і яго здароўя залежаць, па вялікім рахунку, ад трох фактараў: ад яго генетыкі, ад няшчасных выпадкаў (войны, аварыі, калецтвы) і ад экалогіі. Прычым, экалагічны фактар найбольш важны, а з пагаршэннем стану навакольнага асяроддзя ён увогуле робіцца вырашальным. Але тое, што пашкоджана чалавекам, можа выправіць сама прырода.

Члены маладзечанскага грамадскага аб'яднання "Экалагічны цэнтр "Крыніца" з 2002 года распачынаюць серыю бясплатных кансультацый дзеля знаёмства людзей з метадыкамі аздараўлення арганізма, распрацаванымі ў рамках канверсійнай праграмы супрацоўнікамі Новасібірскай Акадэміі навук. Сутнасць яе – у прымяненні натуральных прыродных экалагічна чыстых кампанентаў: мінералаў, вітамінаў, мікраэлементаў і інш. Важнасць і высокую ступень эфектыўнасці дадзеных распрацовак па ачыстцы арганізма пацвердзілі ўрачы інфекцыйнай бальніцы.

Нядаўна "РГ" пісала пра стан дзіцячага здароўя ў Маладзечне. Па апошніх дадзеных, абсалютна здаровых дзяцей у нас менш за 10%. Для дзіцячага арганізма характэрная больш нізкая, чым у дарослых, "экалагічная талерантнасць". Гэта значыць, што дзеці цяжэй прыстасоўваюцца да пагаршэння стану навакольнага асяроддзя і хутчэй захворваюць. Напрыклад, пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС на лейкемію пачалі пакутаваць, у асноўным, дзеці і падлеткі. І калі нельга радыкальна і хутка палепшыць экалагічны стан на нашай тэрыторыі, то можна хаця б знізіць негатыўныя наступствы рэгулярнай ачысткай арганізма ад шлакаў і здаровым ладам жыцця.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## У магазін за вінам

**МЯДЗЕЛ.** Пэўна, камусьці не хапала з чым сустрэць святы, дык яны перад Новым годам абрабавалі магазін у вёсцы Мастаўкі. Узялі самае "неабходнае": віна (шмат), цыгарэты, тры бутэлькі мінералкі ды выручку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Патрабуюцца сведкі

10 лістапада 2001 года ў перыяд часу з 8-50 да 9-00 з плошчы Цэнтральная ў Маладзечне быў украдзены а/м "Аўдзі-80", зялёнага колеру, дзяржнумар 32-67 ОАІ.

25 лістапада 2001 года ў перыяд часу з 16-00 да 16-30 ад дома №18 па вуліцы Маркава ў Маладзечне быў украдзены мікрааўтобус "W-Транспарцёр-4", зялёнага колеру, дзяржнумар 22-62 ОАА.

Магчымых відавочцаў таго, што адбылося, а таксама асоб, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра атамашыны і асоб, што здзейснілі гэтыя крадзяжы, перакануча просім патэлефанаваць у Маладзечне 74838 або звярнуцца ў Маладзечанскі ГРАУС па адрасе: вуліца Галіцтага, 23, кабінет 312, **А. Рудніцкі.**

Канфідэнцыяльнасць інфармацыі і ўзнагароду гарантуем.

■ МІНУЛАЕ

# Аперацыя «Сячкарня»

**ВІЛЕЙКА. У гады акупацыі паход нават у суседнюю вёску мог абярнуцца небяспекай. Нават пагібеллю. Але былі даручэнні, якія, як здавалася, маглі лепш выканаць толькі мы, падлеткі. Таму адноічы мне загадалі:**

– Скокні ў Тураўшчыну. Пакліч **Валодзю** сечку рэзаць.

Дзядзька Валодзя (прозвішча, здаецца, Шорац) быў сувязны. Клікалі яго да нас рэдка і, вядома ж, па важных справах. Я быў прывучаны лішніх пытанняў не задаваць. Вымушаў суровы час: стаяла восень 1943 года.

Ад нас у Тураўшчыну рукой падаць – кіламетраў каля двух нацянкі праз лес. У ім у 1915–18 гадах урасла ў зямлю вайсковая часць рускай арміі. Тут былі цэлы падземны горад! Але склады, бліндажы, казармы – усё згніло і абрынулася. Захаваліся толькі былыя вуліцы і плошчы – паляны ды глыбокія прадаўгаватыя ямы ад падземных збудаванняў. Цэнтральная вуліца-прасека і вывела мяне на дарогу непадалёку ад Тураўшчыны.

Тут – залітае вадой нешырокае балота, а праз яго – гаць. Побач хлапчукі пырскаюцца ля вады. Праходжу міма іх па гаці. Раптам вышэйшы з хлапчукоў крыкнуў:

– Трымайце яго (значыць, мяне – аўт.)! Гэта партызан.

– Ніякі я не партызан, – адказваю. – Я з Гарыдавіч. Во – за лесам, вы ж ведаеце.

– А чаго з нашага лесу прэшся? – наступае ён на мяне ды нагадвае хлапчукам: – Загад каменданта які? Хапаць усіх падазроных і перці ў гарнізон. Там разбяруцца.

Мае довады – як гарох аб сценку. У разлік не прымаюцца. Двое хлапчукоў хапаюць мяне за рукі і вядуць у вёску. Астатнія шпарацъ аддаку, каб я не ўцёк. А куды я ўцяку? З бакоў – вада, аддаду "канвой" з тым пятнаццацігадовым завадатарам. У вёсцы ўздоўж вуліцы – высокія платы.

Я разумею, што справа дрэнь. Дома, вядома, і сячкарня падрыхтаваная, і салома, і сена, і гарохавіны. Каб у былі паблку чаго ўсё было як след. Але ж хіба будуць немцы разбірацца? Цягнуцца ў нашу вёску па гразі... Ды праз лес. Ясная справа: лепш у іх лапы не трапляць.

Ліхаманкава прыдумваю, як вырвацца ад гэтых несвядомых "канваіраў", якія па дурасці могуць мяне загубіць. Вуліца, як вокам кінуць, пустая. Іду і не рвуся з учэпістых рук хлапчукоў, каб прытупіць іх пільнасць. І яны чым далей, тым слабей сціскаюць мае рукі. Хутка ўжо і дом дзядзькі Валодзі, а на вуліцы дарослых – ні душы.

І раптам – неспадзяваны рып дзвярэй. На ганак чыйсьці хаты з'яўляецца... немец! Старэнькі... Яго бледнажоўты твар увесь пасечаны маршчынамі. Я ірвануўся ў яго бок з крыкам па-нямецку:

– Пан афіцыр! Пан афіцыр! Мы гуляем у вайну. Я вучуся ў школе. У чацвертым класе. У Куранцы.

Мае "захопнікі" аж аслупянелі ад нечаканасці. Твар у немца нібы засвяціўся радасцю. Ён заўсміхаўся мне. Затым здымае з пляча вінтоўку. А я як крыкну маім "канваірам":

– Уцякайце! Зараз ён вас пастраляе ўсіх!

Дзяцей і след прастыў.

Я даўно зразумеў: загавары з салдатам па-нямецку – і ў яго знойдзеш прыхільнасць, давер і падтрымку. Вось і гэты дзядуля з-пад пляча мяне лапаў, і доўга хваліў. Адпусціў толькі тады, калі даў цукерак.

Дзядзька Валодзя даведаўся, што яго чакае "сякарня" і заспяшаўся. Хутка мы рушылі да нас.

Вось так і душой загавець можна было з-за легкадумнага глупства тых дзяцей. Сама вайна была гігантскай бязлітаснай сячкарняй, якая магла зрэзаць любога хоць калі.

Восень 1944 года пасадзіла нас з гэтым завадатарам за школьныя парты ў адным класе! Я нікі яму нагадаў, як ён мяне ледзь не загубіў год таму.

– Гэта не я, – адказаў ён, усцешнуўшыся спелай вішняй.

Больш я яму пра яго здрадніцкую дурасць ніколі не згадваў. Але пры сустрэчах ён заўсёды адчуваў сябе вельмі нялёмка. За той паганы ўчынак.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

## З засекаў гісторыі

У выданні гэтых кніг, што займаюць самыя ганаровыя і пачэсныя месцы ў многіх сем'ях і калектывах Беларусі, далёкага і блізкага замежжа, вельмі наглядна адлюстроўваецца жыццё і дзейнасць калектыву адной з дзяржаўстаноў горада, адносіны да высакароднай даручанай справы яе супрацоўнікаў. Гэтая ўстанова – занальны дзяржархіў у Маладзечне. Тут захоўваецца... Памяць.

**Кніга першая**

Яе назва – "Аграрныя пераўтварэнні ў Вілейскай вобласці ў 1939–1941 гг. Дакументы і матэрыялы". Ад яе яшчэ павявае водарам друкарскіх фарбаў, яна – зусім свежая, яна – як нованароджаная. Яе складальнікі выкарысталі гістарычныя матэрыялы, што захоўваюцца ў архіўных фондах Рэспублікі. Кніга паказвае, як ствараліся калгасная сістэма ў Беларусі, і, галоўнае, яна засцерагае ад парадоксаў перагібаў. Гісторыі вядомыя анекдоты пра калектывізацыю, калі не толькі кароў ды коней аб'ядноўвалі, а нават курэй ды пеўняў!

Збор дакументаў і фотаматэрыялаў, наогул, падрыхтоўка кнігі былі распачатыя па ініцыятыве дырэктара дзяржархіва **Р. Герасімовіча** і загадчыцы аддзела архіва **Н. Івановай**. У стварэнні своеасаблівай кнігі памяці аграрным рэформам у рэгіёне ўзялі ўдзел супрацоўнікі Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржархіва Мінскай вобласці, Дзяржархіва кінафотадакументаў, Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

**Кніга другая**

А ўяе – юбілей, ёй дзевяць год. Узрост немалы. За мінулы час на кнігу "Злітуйцеся..." (Дакументы па рэпрэсіях 1939–1941 гг. у Вілейскай вобласці) было шмат рэцэнзій і водгукаў. Гэтай працай зацікавіліся польскія ўлады, і кніга была там выдадзеная ў перакладзе на польскую мову. А яе аўтар Н. Іванова выязджала на прэзентацыю. Кнігу нельга чытаць без хвалявання. Тут тысячы крыкаў: "Злітуйцеся...!", "За што?", пісьмы дзяцей самому Сталіну, заявы, прашэнні. Але ўсё было марна, адказаў ці спачування не было. Толькі па Вілейскай вобласці ў адзначаных гадах было асуджана звыш за 1600 чалавек. Гэтага нельга не ведаць! Мы не маем на гэта маральнага права!

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, архівіст занальнага дзяржархіва, Маладзечна.**

■ МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ

## Доўг па Доме культуры – 100 мільёнаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У новым годзе заказчык "УКБ-Сервіс" вінаваты звыш за 70 мільёнаў рублёў за выкананыя работы. Агульная запазычанасць па будаўніцтве Дома культуры складае 100 мільёнаў рублёў.**

Сёлета на аб'екце працуюць 12 чалавек з 24, астатнія ў адпачынку. Як расказаў прараб будоўлі **Іван Русак**, на грошы, дадзеныя цэнтрам занятасці (каля 5 мільёнаў) капаюць пажарныя рэзервуары для вады. Фірма "Мінскія вокны" павінна да 25 студзеня ўставіць усе вокны. Галоўная задача на студзень – падрыхтоўка будоўлі да пуску цяпла.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ СПРАВЫ СУДОВЫЯ

## Спадчына на гараж

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскім судом разглядаецца даволі вялікая колькасць грамадзянскіх спраў па ўстанаўленні фактаў прыналежнасці на праве ўласнасці гаражоў, пабудаваных у гаражных кааператывах, за памерлымі.**

Чалавек, які пабудаваў гараж у гаражна-будаўнічым кааператыве, з'яўляецца яго членам і, пакуль жывы і здаровы, карыстаецца гэтым гаражом, плаціць падаткі, аплачвае электраэнергію. Але як толькі ён памірае, узнікае пытанне аб спадчыне. Частка спадчыннікаў па віне спадчынадаўцаў сутыкаецца з праблемай афармлення сваіх спадчынных правоў. Каб атрымаць у натарыяльнай канторы пасведчанне аб праве на наследаванне гаража, трэба прадаставіць натарыусу даведку з бюро тэхнічнай інвентарызацыі аб тым, што права ўласнасці на гэты гараж было зарэгістравана за памерлым, але з той прычыны, што спадчынадаўца пры жыцці гэтага не зрабіў, БТІ такой даведкі не дае.

Спадчынніку нічога не застаецца, як звярнуцца ў суд з заявай аб прызнанні за памерлым гэтага права, для чаго неабходна правільна скласці заяву, уплаціць дзяржпошліну, знайсці сведкаў, якія могуць пацвердзіць той факт, што спадчынадаўца будаваў гэты гараж і карыстаўся ім, таксама неабходна прадаставіць у суд такія дакументы, як пасведчанне аб смерці спадчынадаўцы, даведку з ГБК аб тым, што памерлы з'яўляўся яго членам і за ім быў замацаваны гаражны бокс, даведку з БТІ з планам гаража.

Усіх гэтых клопатаў можна пазбегнуць, калі своечасова паклапаціцца пра належнае афармленне права ўласнасці на гараж. Таму што, у адпаведнасці з арт. 219, 220 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, члены ГБК, якія пабудавалі гаражы, набываюць права ўласнасці на іх з моманту афармлення гэтага права ва ўстаноўленым парадку. Таму ўладальніку гаража ў гаражным кааператыве трэба падысці ў БТІ, зарэгістраваць гараж і атрымаць тэхпашпарт.

**Аляксандр МЫЦЬКО, кансультант суда Маладзечна.**

# Калгаснаму рынку быць?

**МАЛАДЗЕЧНА. Дырэктар калгаснага рынку Аляксей Увараў гаворыць, што існуе небяспека ліквідавання рынку як самастойнага падраздзялення.**

Ён мяркуе, што магчымая ліквідацыя звязаная з тым, што таварыства хоча забраць частку прыбытку ад дзейнасці рынку, каб закрыць свае выдаткі.

Для гэтага трэба падрыхтаваць распараджэнне, і пасля яго зацвярджэння аблспажыўтаварыствам і Маладзечанскім райвыканкомам рынак фактычна пазбавіцца самастойнасці. Дырэктар рынку не зможа самастойна распараджацца грашовымі паступленнямі, якія пойдуць на рахунак райспажыўтаварыства. І яно будзе вырашаць, ці пусціць іх на свае выдаткі, ці, прыкладам, плаціць зарплату работнікам рынку.

За час кіравання рынкам Аляксеем Уваравым заасфальтаваная рыначная тэрыторыя, пабудаваныя 2 крытыя павільёны, перапробленыя складскія памяшканні, добраўпарадкаваны цэнтральны ўваход, зроблены ўезд. У апошнія гады ідзе тэндэнцыя да самастойнасці рынкаў. Гэта і Камароўка, і Ждановічы. У Смаргоні ў мінулым годзе адзін з рынкаў перадалі ў прыватныя рукі. І ва ўсіх выпадках рынкі рэзка мянялі знешні воблік. Бо ўладальнікі настроеныя атрымаць максімальны прыбытак, і гэта, як сказаў уладальнік смаргонскага рынку **Аляксандр Багдзевіч**, высокарэнтабельная справа. Там ствараюцца ўмовы для таго, каб на рынак ішлі пакупнікі і прадаўцы. У Маладзечне – наадварот.

Дырэктар Маладзечанскага калгаснага рынку Аляксей Увараў так каментуе магчымыя перамены:

– Вось рэальная сітуацыя: трэба прыбіраць снег. Гэтымі работамі займаецца дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне. Яны пытаюцца: вам патрэбныя нашы паслугі? Я даю распараджэнне перавесці грошы на рахунак ДРБУ, і яно выконвае работу. А так давядзецца паехаць у райспажыўтаварыства, угаварыць старшыню праўлення даць дазвол на аплату. Яны грошы могуць пералічыць са спазненнем ці ўвогуле не пералічыць, ці старшыні праўлення можа не аказацца на рабочым месцы. А што рабіць са снегам?



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Паступленнямі ад гандляроў пакуль распараджаецца адміністрацыя калгаснага рынку.**

Далей. На тэрыторыі стаіць шмат магазінаў, якія не належаць рынку. Арэнднай платы яны не плацяць. Толькі кампенсуюць зямельны падатак. Каб рынак мог самастойна вырашаць падобныя пытанні, то з'яўляўся б дадатковы прыбытак. А пусціць яго ёсць куды – трэба рабіць выезд, заканчваць павільён і адміністрацыйны будынак. Даўно неабходна зрабіць птушыны рынак.

Супраць такіх перамен і старшыня таварыства абароны спажыўцоў **Уладзімір Клешч**:

– Ніхто, акрамя апошняга дырэктара, не займаўся добраўпарадкаваннем рынку. Лічу, што лепш зрабіць адваротнае: даць магчымасць рынку стварыць акцыянернае таварыства, каб ён мог нармальна развівацца. З'явяцца там яго магазіны, нармальныя прыбіральні, будуць лепшыя ўмовы для спажыўцоў. А іх, калі скласці жыхароў горада і раёна, будзе 150 тысяч чалавек.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Арыштавалі гендырэктара МТЗ

**Затрыманы гендырэктар Мінскага трактарнага завода Міхаіл Лявонаў.**

Праваахоўныя органы рэспублікі ад каментарыяў пакуль устрымліваюцца, аднак, па звестках NTVRU.com, Лявонава затрымалі ў панядзелак вечарам у цягніку, які ішоў у Расію. Пры ім былі знойдзеныя падробныя дакументы.

Па адной з версій, прычынай затрымання магла стаць камерцыйная дзейнасць прадпрыемства, а таксама парушэнне падатковага заканадаўства адміністрацыяй завода.

Лявонаў ужо змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання, аднак абвінавачванне яму пакуль не прад'яўленае. Следчы вынес пастанову аб адхіленні дырэктара МТЗ ад пасады, якую ён займаў, на перыяд расследавання справы.

Нагадаем, што ў рамках абвешчанага прэзідэнтам **Аляксандрам Лукашэнкам** узмацнення барацьбы з карупцыяй за апошнія паўтара месяца ў Беларусі затрымалі каля дзесяці кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў.



**Міхаіл Лявонаў.** Фота IREX/ProMedia.

У лістападзе мінулага года ў Мінску былі арыштаваныя начальнік Беларускай чыгункі **Віктар Рахманько**, дырэктар завода "Атлант" **Леанід Калугін** і дырэктар сталічнага стадыёна "Трактар" **Уладзімір Алейнікаў**.

Рахманько падазраюць у крадзяжах, Калугіна – у злоўжываннях і разбазарванні сродкаў, Алейнікава – у атрыманні хабару і фінансавых парушэннях.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Курсы валют НБ РБ

| | 3 студзеня | 10 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 1580,00 руб. | **1602,00** руб. |
| Літ | 394,85 руб. | **400,54** руб. |
| Расійскі рубель | 52,31 руб. | **52,42** руб. |
| Злоты | 395,59 руб. | **403,80** руб. |
| ЕЎРА | 1391,51 руб. | **1431,07** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1600 – 1620 руб. | **1630 – 1670** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 3.01 | 9.01 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2600 | **2600** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 8500 | **8500** |
| Сасіскі, 1 кг | 3180 | **3200** |
| Селядзец, 1 кг | 1980 | **2100** |
| Рыс, 1 кг | 540 | **580** |
| Грэчка, 1 кг | 440 | **480** |
| Цукар, 1 кг | 675 | **695** |
| Алей, 1 л | 1350 | **1500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1150 | **1100** |
| Маянэз, 200 г | 320 | **330** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1700 | **1800** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 580 | **580** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 550 | **550** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 500 | **400** |
| Капуста, 1 кг | 500 | **500** |
| Лімоны, 1 кг | 1800 | **1680** |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | **1700** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1300 | **1200** |
| Масла, 1 кг | 2900 | **3000** |
| Тварог, 1 кг | 1400 | **1200** |
| Малако, 1,5 л | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1600 | **2000** |
| Бульба, 1 вядро | 2400 | **2400** |
| Морква, 1 кг | 600 | **800** |
| Яблыкі, 1 кг | 700 | **600** |

## Будаўніцтву СШ №14 дапамагае Расія

**МАЛАДЗЕЧНА. У снежні 2001 года расійская фірма "Барк" выдзеліла 156 мільёнаў рублёў на будаўніцтва СШ №14.**

Гэта было зроблена як гуманітарная дапамога. Як расказаў намеснік старшыні гарвыканкома па будаўніцтве **Мікалай Воранаў**, 70 мільёнаў рублёў пайшлі на пагашэнне запазычанасцяў падрадным арганізацыям. Астатнія грошы – на аднаўленне будаўнічых работ. Далейшае фінансаванне пакуль не вызначанае.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ «РГ»-СТАТЫСТЫКА

## На добрым рахунку

**МАЛАДЗЕЧНА. За мінулы год Маладзечанская арганізацыя абароны спажыўцоў здолела вярнуць 6,42 мільёна рублёў. Астатнія рэгіянальныя таварыствы краіны вярнулі спажыўцам каля 29,5 мільёна рублёў. На пачатак мінулага года было зарэгістравана 48 мясцовых спажывецкіх арганізацый. Пасля перарэгістрацыі, якая прайшла ўлетку, засталося 28.**

У Маладзечанскую арганізацыю за год звярнуўся 161 чалавек. Большасць прэтэнзій было да работы гандлю – 124 звароты. Таварыства разглядала і пытанні бытавога абслугоўвання, будаўнічыя паслугі, паштовай і тэлефоннай сувязі, працоўных адносінаў, работы "Камунальніка", грамхарчу, турысцкіх і транспартных паслуг.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Беспрацоўе на 1 студзеня

| | Колькасць беспрацоўных | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1503 (-18) | 2,47% |
| Маладзечанскі раён | 319 (+7) | 1,28% |
| Астравецкі раён | 350 (-17) | 2,39% |
| Ашмянскі раён | 163 (-) | 0,9% |
| Валожынскі раён | 188 (-11) | 0,87% |
| Вілейскі раён | 397 (-5) | 1,23% |
| Смаргонскі раён | 1110 (-11) | 3,31% |
| Мядзельскі раён | 285 (+21) | 1,5% |

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

# Нявызначанасць

**ВІЛЕЙКА. Менавіта так дырэктар раённага цэнтра дзіцячай тэхнічнай творчасці Валерый Бяўзо гаворыць пра перспектыву развіцця гэтай навучальнай установы.**

"РГ" летась пісала пра гэты цэнтр. Праблемы пачаліся пасля таго, як летам 2000 года ён пераехаў у непрыстасаванае падвальнае памяшканне, дзе не было ні ацяплення, ні святла, ні прыбіральні. Рамонтам пачалі займацца выкладчыкі на чале з дырэктарам. Цяпер у 26 гуртках займаюцца больш за 200 дзяцей. У гэтым навучальным годзе закрыліся два гурткі з-за таго, што звольніліся выкладчыкі.

Са станоўчых навін цэнтра – "Беларусбанк" даў 15 сталоў. Чакаюць паўтара кубаметра дошак з "Будзэталі" – абсталююць майстэрню. Самі.

– Як апрануў гэты халат у 1986 годзе, калі стаў дырэктарам, так і не здымаю. Нам не прывыкаць. Раней толькі яшчэ рабочых запрашалі, а цяпер – не. Бо мы самі хутчэй зробім. А так пакуль выб'еш грошы, пакуль іх пералічыш – шмат часу пройдзе. Ды і рахунак аддзел адукацыі можа не падпісаць: няма грошай. Раней як было? Я ехаў у магазін, браў рахунак, потым – у бухгалтэрыю аддзела адукацыі, і там яго аплачвалі. Цяпер нават элементарнага могуць не аплаціць.

Пакуль не зменіцца сістэма фінансавання, то зруху не будзе. Але ад нас гэта не залежыць, – уздыхнуў дырэктар.

Што будзе з цэнтрам праз год ці два, Валерый Бяўзо сказаць не можа. Поўная нявызначанасць.

Загадчык раённага аддзела адукацыі **Яўген Кулінковіч** аптымізмам таксама не вылучаўся:

– Яшчэ не прыняты бюджэт гэтага года, але гавораць, што фінансаванне адукацыі знізіцца. Да 30% выдаткаў трэба кампенсаваць самім. Прыкладна такую долю займаюць камунальныя паслугі.

Як зарабляць? Пры тым, што ў гэтым ацяпляльным сезоне адукацыя за ацяпленне не плаціла. Як сказаў Яўген Кулінковіч, на пачатак года запазычанасць складае каля 140 мільёнаў рублёў. Аванс павінны выплаціць да 29 снежня, а яго няма і сёння (размова адбылася 8 студзеня).

– Той год слаба плацілі – пражылі неяк. Пражывем і гэты, – упэўнены ён. Садкі і школы не павінныя адключыць. За мінулы год бюджэт разлічыўся поўнасцю.

А наконт цэнтра дзіцячай тэхнічнай творчасці Яўген Кулінковіч сказаў наступнае:

– У гэтым свеце ўсё пастаўлена так, што кожны павінен турбавацца пра сябе сам. Тэхнічныя работнікі – хлопцы рукастыя і сваё рабочае месца змогуць абсталяваць. А мы, па магчымасці, ім дапаможам.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Што будзе заўтра?

Фота IREX/ProMedia.

■ ЗНАРОК НЕ ПРЫДУМАЕШ

## Валожынскае дзікунства

**ВАЛОЖЫН. 27 снежня памерла 82-гадовая пенсіянерка Марыя Шакун.**

Мужа і дзяцей у яе не было. Жыве ў Валожыне пляменніца, якае часцяком заглядае ў чарку. Гэтая жанчына атрымала матэрыяльную дапамогу на пахаванне.

4 студзеня труну з целам Марыі Шакун занеслі на могілкі, паставілі і прысыпалі снегам. Закапалі труну іншыя людзі, якія не стрывалі такога дзікунства.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ АНОНС

## Юбілей Марыі Захарэвіч

**МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра а 17-й гадзіне ў Мінскім абласным драматычным тэатры пройдзе творчая вечарына актрысы Марыі Захарэвіч.**

У Маладзечне яна працуе 5 год. Іграла ролю Маці ў спектаклі "Апошняя ахвяра" і "Характары".

Марыя Захарэвіч нарадзілася ў вёсцы Навасёлкі на Мядзельшчыне. У 1957 годзе скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. У 1977 годзе стала народнай артысткай Беларусі, а ў 1984 годзе атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ МІНУЛАЕ

# Успаміны з другой сусветнай

МЯДЗЕЛ. Жыхар вёскі **Чэслаў Лявіцкі** падчас другой сусветнай вайны ваяваў у войску польскім. Яму давялося зведаць і нямецкі палон, і савецкія катаржныя работы.

– Трапіў я ў палон у 1939 годзе. Адразу працаваў на гаспадара ля Гумбінэна ў Прусіі – горад быў за 60 кіламетраў ад граніцы польскай і літоўскай. Гаспадар Кумкэйн, хутар Прэйхшад зваўся. На хутары прарабілі да 41-га года. Я пры каровах быў. Устаць мусіў уначы з немкай даіць карову. А пакуль іх спарадкуеш – ужо аж да вечара. Усё па гадзінніку ў немцаў было распісана: калі абед, дык абед – роўна гадзіна. Напрыклад, на поле паедзем браць снапы ці канюшыну. Да абеду застаецца дзесяць хвілін, усё адно каня адварочваем, едзем на поле, ускідваем дзесяць снапоў ці пару пластоў. Прыйшоў час – кідай усё! І так вечарам да 6 гадзін.

А ў 41-м сабраліся дадому. Хоць у гаспадара быў пад'еўшы, але палонны. Ты ж паганы. Паехаў, напрыклад, на кані па вугаль альбо малако павез. Прыехаў – адразу пытаюцца: "Нацыі якой?". Паляк узлез немцу на дарогу – ужо табе гумы. Ты ж бяспраўны. А тут другі, хто паўцякаў, лісты прыслалі, што граніца Германіі і Беларусі слабая, неабкапаная і што смела можна ісці. Упяцёх уцякалі. Разам з намі немец уцякаў.

**– Ён быў сын гаспадара?**

– Не. Наняты быў. Так як парабак. Гэты немец любіў з палоннымі сябраваць. Малады хлопец часта далучаўся да нас на полі. А з палоннымі ў Германіі сябраваць было нельга, бо немцы лічылі заразным замежнага чалавека. Дык яму раз далі 37 марак штрафу, а пасля тры месяцы адседзеў. У Германіі нават дзяўчат каралі, якія з намі стасункі мелі. Немку тады на шэсць месяцаў садзяць і галаву абстрыгуць, што паганая ўжо, з палонным жыла. А палонных, калі з немкай заняўся, вешалі. Устроены электрычны слуп, уздзвіжка жалезная. Нас збіраюць тады пад канвоем вахманы і прыводзяць паказваць, як паляка будуць вешаць за немку.

**– А чаму немец уцякаў разам з вамі?**

– Уцякаў у Расію. Ахвоты набраўся, што ў Саветах, як напісалі нашы, дазвалялася ружжо браць і паляваць. Дык ён кажа: "На Сібір паеду. Буду план выконваць і паляваць". Набраў есці, мапу ўзяў. Аднак нас злавілі пры граніцы. Немцы на Расію сабраліся ісці ваяваць і ўжо ўзмацнілі граніцу каля Сувалак. Коні стаялі ў бараках, з дошак пазбіваных, і інш.

Немца адразу адлучылі ад нас. А нас пасадзілі ў бункер. Затым адправілі ў лагер. Тры месяцы пад армію цяпер трэба было адрабіць. Лагер у лесе знаходзіўся, непадалёку ад горада Прэй-Эйляў у Прусіі. Гэта быў першы лагер ад граніцы – 1 штаблак А. Там у голад капалі камень па калена ў вадзе. Не выканаў план – катуюць.

Аднойчы дамовіліся ўдвух палонныя ўцячы ноччу з гэтага лагера.Пакінулі шынялькі каля ям, дзе жвір для дарог бралі, і дамовіліся там сустрэцца. Уцяклі праз дрот. А святло ўключанае, вахман вакол лагера ходзіць. Таму немцы хутка агледзеліся. Як пачалі нас ганяць: "Чаму не наказалі вахманам, як яны ўцякалі?". Нарабілі з калючага дроту вітушак, пакідалі пад ногі і пачалі нас голых ганяць. У адной кашулі былі, бо ў кальсонах не давалі спаць. Немец і сам без партак, толькі ў кашулі спаў. І гэтак нас гоняць па вітушках і лупяць палкамі і гумамі. Білі-білі, аж прыганяюць аднаго ўцекача. Ён, значыць, уцёк і чакаў напарніка ля шынялькў. А ішоў вахман на гэтую бяду з адпачынку. Уцякач думаў, што свой, і свіснуў. Вахман адсвісціўся. А ноч цёмная. Увосень было. Палонны выйшаў, а вахман ухапіў яго. Калі прывялі ўцекача, то ўсім было загадана біць яго голага. Немцы яшчэ баб сваіх на машынах папрывозілі, і тыя стаяць у варотах, аж лопаюць, гэтак яны смяюцца, як нас немцы б'юць. І, значыцца, увесь лагер павінен быў біць уцекача за тое, што ўсіх білі праз аднаго. А як жа будзеш свайго? Шкада. Але калі слаба б'еш, лажыся – і цябе будуць. І цэлую ноч такая барацьба ішла. Лепш застрэліцца, чым ісці ў палон.

Крыху пазней працавалі ў начальніка лагера, які меў гектар зямлі, карову. Адпрацавалі гады са тры. А калі ён памер і засталіся адныя бабы, зноў мы ўцякалі. Удзень тады заляглі ў кусце на полі схавацца. Раптам прыйшоў немец і пачаў зямлю араць каля гэтага куста. Уцячы ж нельга – дзень. Тады прылятае сабака да гэтага чалавека і пачаў брахаць на нас. Немец дастаў браўнінг, і мы праз поле пабеглі да лесу. А там хутары навокал, і ў кожнага свой тэлефон. Каля дарогі ў Германіі таксама панастаўляныя тэлефоны. Наляцела болей немцаў і сабак з імі, ну, і злавілі нас у ляшчынніку. Ну і што? Колькі хочуць, столькі цябе лупяць. Ты ж бяспраўны, як цябе злавілі. Потым каля Кёнігсберга адбываў пакаранне.

**– Да якога года давялося ў нямецкім палоне адбыць?**

– Вызваліла Расія ў 45-м вясной. Немец не даваў палонным заставацца, гнаў перад сабой. І быў палонны і яшчэ адзін чалавек, які з-пад Віцебска літоўцамі вывезены, узялі каня, набралі адзення, ежы і паехалі да рэчкі, што бліжэй да фронту. Тут гара, тут рэчка. Падкапалі гару ад рэчкі і зрабілі бункер. Паставілі слупы, накат. Нас ніхто з немцаў не агледзеў, і гэтак мы засталіся. Потым рускія падышлі з аўтаматамі: "Хто такія?". Мы кажам: "Палонныя".

**– А што было адразу пасля вайны?**

– Сабралі нас і ў 45-м павезлі дадому. У Вільні я злез, кажу: " Тут брат мой, які ахвотнікам у польскім войску ваяваў. Ужо з палону выпусцілі яго. Пайду да брата". А мяне не адпускаюць. Сказалі, што гэта раней была Віленская вобласць, а цяпер Маладзечанскую зрабілі за гэтыя гады пры Саветах. Што ў Маладзечна выпусцяць і на машынах будуць развозіць. Прыехалі ў Маладзечна. Замест таго, каб адправіць дадому, прычапілі платформу кіламетры са тры – брэты і палаткі – і аж у Саратаў.

Прывезлі на поле, разгрузілі. На вышку ўзлез нейкі палкоўнік ці генерал і вычытаў: "Вашы сёстры, браты, бацькі – усе працуюць у калгасах, на будоўлі. І вы мусіце на 5 год план паставіць: пабудаваць газапровад Саратаў-Масква на 110 кіламетраў". Ну, дык пяць год і рабіў.

Гэта пасля вайны нас усіх адразу туды павезлі – дзесяць тысяч чалавек. Саветы шукалі ўласаўскіх і таму палонным не давалі веры, а вывозілі. А я меў шыльдачку алюмініевую з польскай вайны. У войску такія выдаваліся, дзе ўказваліся полк, дывізія. У Саратаве ўзяў картку алюмініевую, прыходжу да начальства і пытаюся: "Які я ўласавец, што на казно вывезлі на пяць год? Я ж з польскай вайны". Тады я там у ахове рабіў, людзей пільнаваў. Усё адно план далі, мусіў адбываць. У Разані нам участак быў: вёска Табаева, станцыя Карабліно, а гаспадаром кватэры быў Іван Скакун.

Пазней, хто з палонных у Германіі за пяць год не апраўдаўся, яшчэ на пяць год ва Уфу вывезлі на руду жалезную канчацца. Апраўдання ці сведкаў няма – значыць, уласавец. Не немец цябе вывез, а ты сам з немцамі ўцякаў. Пры мне вывозілі. У ларах мы ўчатырох-пяці вартавых засталіся з апраўданымі, а іншых пасля допытаў павезлі за казно, так як уласаўцаў.

**– Потым адразу дахаты адпусцілі?**

– Прыехаў дамоў. У калгасе брыгадзірам паставілі. Дваццаць чатыры двары ад Рыдуплі, Мельнікаў і да Глыбокага Ручая ўваходзілі ў маю брыгаду. Пабудаваў сабе хату. У той час Беларусь моцная была, з Амерыкай раўняліся. Такія фермы былі тысячнікі. Не было дзе мяса здаць. У мяне самога дзве каровы дойныя былі. Здаць не можна было. Ніхто не прымаў, бо загружаныя базы былі.

Цяпер людзі маркі атрымліваюць, што мы адрабілі немцу. А я нічога дайсці не магу. Як дапытвалі мяне ў Расіі, шукаючы ўласаўцаў, замест Чэслава Чэслававіча запісалі Вячаславам Вячаслававічам. На допыце сказалі, што Чэслава ў нас няма, а ёсць Вячаславы. Калі перачытваў, што там было напісана, то нічога не разумеў. Я ж у польскай школе вучыўся. Па-французску ў Польшчы вучылі, а па-руску не вучылі. Дык вось, у архіве ўсё знайшоў, дзе ў гаспадароў рабіў і што рабіў. А мне кажуць: гэта не твае дзела, а другога Чэслава. І што ты дакажаш? Тады сказалі, каб даў праз суд двух сведкаў, з якімі працаваў у палоне. А яны памерлі. Напрыклад, у Труханках **Шышэўскі** быў. Ён разам са мной у лагерах сядзеў, разам са мной уцякаў.

Цяпер у другі раз напісаў, што, усё ж, крыўдую. І як даказаць, што гэта маё імя? У лагерах жа ўвогуле імёнаў не было. Літара Р на грудзях, што паляк, а на плячах твой нумар.

**Запісаў Вадзім ПРАЎРАЦКІ.**

■ ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
Віталь Качаткоў.

## Віталь Качаткоў: «Засілле матэматыкі»

– Гэта ўжо другі турнір у Маладзечне. Першы я праводзіў два гады таму. Хачу сказаць, цікавасць да інтэлектуальных гульняў згубленая. Людзі не адыходзяць ад тэлевізара.

**– Вы разлічвалі на большую колькасць удзельнікаў?**

– 16 чалавек для стотысячнага горада – гэта нішто. Гуляць жа ўмеюць усе. Думаў, збярэцца, дзесьці, каля 40 чалавек. Хаця, магчыма, не раскруціі спаборніцтва, бо аб'ява была толькі ў "РГ". Але шмат людзей мы таксама прынесь бы не здолелі. Зала ў брыдж-клубе малая.

**– Як лічыце, чаму людзі ўсё менш захапляюцца шашкамі, шахматамі?**

– Яшчэ з савецкіх часоў пайшло засілле алгебры, фізікі, геаметрыі. Чалавек выходзіць са школы – і праз два гады ўсё забыта. Ды і вучыць амаль ніхто не хоча. А ў гульні ўсё ж цікава. І развіццё ідзе. У Германіі, Швецыі, іншых еўрапейскіх краінах нават факультатывы спецыяльныя ў школах уведзены. Так можна было зрабіць і ў нас. Такія віды спорту развіваюць памяць, увагу, канцэнтрацыю. У нас на першым месцы стаіць матэматыка.

**– Турнірам хоць задаволены?**

– Прайшло ўсё добра. Была інтрыга, цікавасць да паядынкаў. Усе прагназавалі, што фаварытамі будуць члены шахматнага клуба. Прыемна, што прыехалі госці з Мядзела і паказалі, як трэба гуляць.

**– Асабістае выступленне?**

– Даўно не гуляў, спачатку прывыкаў. Трэба было перад турнірам тыдні два папрактыкавацца. Тады было б лягчэй.

■ КАРТАЧНЫЯ ГУЛЬНІ

# «Дурні» рэгіёна вызначаны

**МАЛАДЗЕЧНА. 5 студзеня ў брыдж-клубе "Папараць" прайшоў турнір па гульні ў падкіднога дурня. Бралі ўдзел усе жадаючыя, якіх аказалася 16 чалавек.**

Узнос з гульца склаў дзве тысячы рублёў. Гулялі па швейцарскай сістэме. Усяго сем тураў, у кожным у пару зводзіліся гульцы з роўнай колькасцю балаў – лідэр з лідэрам, аўтсайдэр з аўтсайдэрам. Партыя складалася з трох гульняў, кожнае ачко ішло ў залік, нават калі партыя была прайграная. У турніры ўдзельнічаў і наш чалавек – **Юрый Карпіцкі**.


Няпросты расклад. Момант з турніру. Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

### Тур першы

Сляпое жэрабя раздзяліла ўдзельнікаў на пары. Пасля першых партый вызначыліся тры лідэры, якія атрымалі перамогі з лікам 3:0. Цікава, але амбіцыйны на пачатку турніру Карпіцкі пакуль свае амбіцыі спраўджваў. Перамог з сухім лікам **Андрэя Чаеўскага** і аказаўся ў тройцы лепшых. Яго чакала сустрэча з моцным сапернікам. Ім аказаўся знаёмы па дваровых футбольных гульнях **Сяргей Дземеш**.

### Тур другі

Амбіцый стала менш. Будучы сярэбраны прызёр астудзіў запал журналіста, калі аддаў толькі паўачка і застаўся ў лідэрах. Супраць даўніх знаёмых гуляць аказалася цяжэй.

### Тур трэці

Супрацоўнік "РГ" адкаціўся ў сярэдзіну турнірнай табліцы, але не губляў надзеі трапіць у тройку лепшых (г. зн., амаль не дурняў), але будучы бронзавы прызёр згадзіўся толькі на нічыю і адно паражэнне. Пасля гэтага тура склалася двухуладдзе Сяргея Дземеша і **Віктара Каравацкага**, якое парушылася толькі пасля пятага тура. Дарэчы, Карпіцкі павінен быў у гэтым туры гуляць супраць Каравацкага, які да тэтага меў 4 ачкі, але гуляў супраць **Бурца**, у якога было 4,5.

### Тур чацверты

Зусім дабіў усе надзеі маладога гульца. **Рынкевіч**, які заняў у канчатковым спісе чацвертае месца. 0:3 – Юрый зразумеў, што лепш пакуль пісаць матэрыялы. Хаця надзея памірае перадапошняй. А ўвогуле, хацелася заняць не самае горшае месца. Гэта потым стала зразумела, што гэтае буйное паражэнне не дазволіла заняць прызавога месца. Лідэры турніру згулялі ў гэтым туры ўнічыю. Сяргей Дземеш стаў адзіным, хто не прайграў пераможцу.

### Тур пяты

За тры этапы да канца адзіны лідэр не вызначаўся, што толькі надавала інтрыгі. Сустрэчы лепшых прыцягвалі ўвагу, тым часам хтосьці з іх губляў балы, і ў лік першых выходзіў хтосьці яшчэ. Карпіцкі ў гэтым туры ўзяў ды і перамог аднаго з аўтсайдэраў – **Бадзюлю** – з лікам 3:0. Відаць, ад расчаравання. Шанцы на тройку яшчэ заставаліся, ад лідэраў аддзялялі 2,5 ачкі, ад трэцяга месца – ачко.

### Тур шосты

На гэты раз сапернікам Юрыя Карпіцкага быў майстар спорту па шахматах, лепшы гросмайстар Маладзечна, дарэчы, арганізатар гэтага турніру, **Віталь Качаткоў**. Юра забыўся нават пра мары аб перамозе. Але атрымалася ўсё крыху інакш. Кожны ўзяў па 1,5 ачка. Гэта яшчэ не ўсё. Ад рэдакцыі "РГ" на доўгую памяць лепшаму шахматысту былі падораны так званыя "пагоны". Толькі дзеля гэтага моманту можна было ўдзельнічаць у турніры. Сухой перамогай над **Голубам** Каравацкі амаль забяспечыў сабе перамогу. Яго галоўны канкурэнт набраў у гэтым туры толькі ачко.

### Тур сёмы

Сапернік – гросмайстар №2 у горадзе, нядаўні пераможца рэгіянальнага шахматнага турніру – **Віктар Акотчык**. Лёгкія дзве перамогі і нічыя. У выніку – 12 ачкоў і пятае месца не ў самай благой кампаніі.

Выніковая табліца адзіночнага турніру:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Каравацкі | 15,5 |
| 2. | Дземеш | 14,5 |
| 3. | Бурэц | 13 |
| 4. | Рынкевіч | 12,5 |
| 5. | Карпіцкі | 12 |
| 6. | Карніенка | 11 |
| 7. | Басінюк | 8,5 |
| 8-10. | Голуб | 10 |
| | Качаткоў | 10 |
| | А. Чаеўскі | 10 |
| 11-12. | Акотчык | 9,5 |
| | Я.Чаеўскі | 9,5 |
| 13. | Монід | 9 |
| 14. | Гардзей | 8,5 |
| 15. | Бадзюля | 7 |
| 16. | Карачун | 5,5 |

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**6 студзеня гулялі парны турнір. Пераможцу вызначалі па кругавой сістэме.**

**Выніковая табліца парнага турніру:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Бурэц – Арцюкевіч | 16 |
| 2. | Голуб – Рынкевіч | 14 |
| 3. | Бадзюля – Я. Чаеўскі | 13 |
| 4. | Качаткоў – А. Чаеўскі | 10 |
| 5. | Гардзей – Нехвядовіч | 9,5 |
| 6. | Бялоў – Грынь | 8 |
| 7. | Зыскін – Карачун | 7,5 |
| 8. | Дземеш - Акотчык | 7 |

**Мıкалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Табло

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў гарадскім парку пройдзе лыжная гонка як апошні этап мнагаборства па зімніх відах спорту.**

У ёй удзел бяруць моладзь дапрызыўнага і прызыўнага ўзросту. 10 студзеня ў СШ №6 праходзіла стральба і гімнастыка. Пераможцы атрымаюць граматы і падарункі, а за першае месца ў камандным заліку – 20000 рублёў.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ ШАХМАТЫ

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы этап другога рэгіянальнага шахматнага турніру пройдзе 13 студзеня а 13-й гадзіне ў шахматным клубе "Папараць".**

Вызначыліся дні правядзення наступных этапаў. Сёлета яны будуць праходзіць кожную другую нядзелю месяца. Пераможца ў турніры вызначыцца па суме выступленняў на ўсіх этапах. У залежнасці ад колькасці жадаючых, гульні будуць праходзіць па кругавой ці па швейцарскай сістэмах. На партыю адводзіцца па 10 хвілін.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

**МЯДЗЕЛ. Упершыню аддзел па фізкультуры, спорце і турызме вызначаў лепшага спартсмена ў раёне.**

Ім стаў **Валянцін Бабровіч**, пра чые поспехі ў армрэстлінгу «РГ» нядаўна пісала. А вось лепшага работніка фізкультуры вызначаюць ужо каля 10 год.

На гэты раз ім стаў **Валерый Далінін**, які трэніруе лыжніцу **Ірыну Нафрановіч**.

**Алесь Высоцкі**

**«РГ»-СТАТЫСТЫКА**

Маладзечанскі футбольны клуб у мінулым сезоне замкнуў дзесятку мацнейшых у краіне. Дарэчы, для нашых землякоў гэта быў дзесяты чэмпіянат у вышэйшай лізе. Выніковы паказчык аказаўся неблагі – шосты – за ўсе гады: лепшыя былі 4-е месца (1994/95), 5-е (1995-восень), 8-е (1996) і два 9-я (1992 – вясна, 1993/94). За апошнія пяць гадоў так добра не выступалі.

Працэнт ачкоў, набраных ад магчымага, таксама шосты (умоўна лічым, што заўсёды перамога каштавала тры ачкі). Маем 29/78=37,2%. Больш за палову было увосень-95 (25/45=55,6%) і ў чэмпіянаце-94/95 (47/90=52,2%).

Рэдка так добра выступалі дома: паказчыкі +6=3-4 12-15. Лепш было тройчы. +6=0-2 18-8 (95-вос), +5=6-1 17-9 (94/95) і +8=2-5 29-17 (96). А вось выязныя матчы не задаліся: +2=2-9 11-32. Горш было толькі ў 99-м: +2=2-11 11-34. У мінулым чэмпіянаце сярод усіх каманд вышэйшай лігі падзялілі па дамашніх матчах 9-10 месцы, а па выязных – 10-11-ае. Прычым і там, і там з брастаўчанамі.

Сярэдні ўзроставы паказчык гульцоў трэці ў лізе па маладосці – 23,55 гады – пасля БАТЭ і "Дняпра-Трансмаша". Сярэдняя наведвальнасць усіх матчаў, а яна, зразумела, у асноўным, складаецца з дамашняй наведвальнасці, нізкая – 2313 чалавек. Горш толькі ў салігорцаў. На лідэраў гэтага рэйтынгу, гродзенцаў, хадзілі 3765 чалавек.

Усе 6 ачкоў узялі ў сустрэчах з аўтсайдэрамі "Нафтанам" і "Ведрычам-97". Ніводнага нам не аддалі мінскае "Дынама", "Нёман-Белкард" і "Славія.

Ледзь утрымалі станоўчы баланс у матчах з "Шахцёрам" (цяпер стала +7=4-7 17-16). Давялі да горкіх – 10 узаемаадносіны з дынамаўцамі сталіцы (+1=6-11 17-36). Узялі першыя ачкі ў БАТЭ (+1=0-5 7-17). З сапернікамі па будучым сезоне балансы ў матчах вышэйшай лігі такія: жодзінскае "Тарпеда" (+3), "Шахцёр" (0), "Днепр-Трансмаш" і "Гомель" (па –3), "Тарпеда-МАЗ", "Белшына" і БАТЭ (па –4), "Нёман-Белкард" (–5), брэсцкае "Дынама" і "Славія" (па –6), "Лакаматыў-96" (–7), мінскае "Дынама" (–10), з "Зоркай-ВА-БДУ" не сустракаліся. А ў першай лізе і жодзінцаў, і вайскоўцаў двойчы перамаглі.

Правялі ў вышэйшай лізе 267 матчаў, маем 74 перамогі, 70 нічыіх, 123 паражэнні, розніца мячоў 297-379, 292 ачкі. Гэта 12 паказчык за ўсе гады. Асноўныя арыенціры для нас: 340 ачкоў – у "Дынама-93" (ужо не гуляюць), 296 – у гамяльчан, 251 – у БАТЭ.

**Працяг будзе.**

**Сяргей Гайковіч.**

■ ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# Віктар Каравацкі: «Прачытаў, прыехаў, перамог»

**Яшчэ да пачатку турніру было вядома, што хтосьці павінен прыехаць з Мядзела. І адразу вызначыць госця было складана. Віктар Каравацкі прымаў гаспадароў у куце пакоя і амаль заўсёды адпускаў іх ні з чым.**

**– Што прымусіла прыехаць сюды на турнір?**

– Мне падабаецца гульня ў падкіднога дурня. Прачытаў у вашай газеце анонс і паехаў.

**– На дарогу дадому грошы зарабілі?**

– Ведаеце, не ў грашах справа. З дзяцінства гуляю ў карты, а тут арганізуецца турнір, выхадны дзень. Чаму не атрымаць асалоду ад гульні?

**– Дзе гуляць так вучыліся?**

– Калі студэнтам быў, начамі гулялі ў інтэрнаце. У нас пляж ёсць, там таксама здаралася. Тады яшчэ па 20 капеек за партыю ставілі. Потым неяк у камендатуры працаваў вадзіцелем, там пазбаўленыя волі, вядома, гуляюць. Аднойчы я стаяў, глядзеў і падказаў аднаму. Той прапанаваў мне, калі я такі разумны, на грошы згуляць – тры рублі стаўка (памятаю, зарплата 150 была). Ну, першыя тры я прайграў, а потым назад дзевяць рублёў адыграў. Аказваецца, яму ўсе са свай палучкі даўгі неслі аддаваць. Ён заўсёды шмат газет выпісваў, разумны і таленавіты быў. Рэдкасць. Калі выходзіў, мне раіў у карты гуляць. Я не пайшоў па такім шляху.

**– Што галоўнае ў гульні – майстэрства ці шанцаванне?**

– Натуральна, доля шанцавання адыгрывае вялікую ролю. Але і без майстэрства нельга. Я, калі быў малады, усю калоду раскладаў ад пачатку і да канца. Цяпер ужо толькі казыры і вялікія карты запамінаю, якія выходзяць.

**– На турніры вы ўвесь час былі лідэрам. Цяжка псіхалагічна?**

З псіхалогіяй у мяне ўсё добра, я ў спорце даўно. У валейбол гуляю, некалькі тыдняў таму з камандай у вобласці трэцяя сталі.

**– Можа, на Нарачы ўсе так моцна ў карты гуляюць?**

– Сёння былі моцныя сапернікі. Проста мне на добрую карту шанцуе. А так яшчэ сябры хацелі прыехаць з Будслава, тэлефанавалі мне. Я неяк раз у іх на турніры перамог. Нешта не прыехалі.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**


Віктар Каравацкі. Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Андрэя Каўзовіча** з 15-годдзем! Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і вышэйшых дасягненняў у спорце. *Бацькі, брат.*

Дарагая **Марына Папецька**, віншуем цябе з 21-годдзем! Жадаем шчасця, здароўя, кахання. *Бацькі, сястра.*

**Браніславу Міхайлаўну Вязгіну** з Калядамі і Новым годам! Здароўя, поспеху, шчасця. *Рэгіна.*

**Алу Фёдараўну Сафараву** з Новым годам! Здароўя, шчасця, поспеху. *Ваша 17-я група.*

**Лідзія Акуліч** і твая сям'я, з Калядамі і Новым годам! Здароўя, шчасця. *Рэгіна.*

З Новым годам **Ганну Дзятковіч**, **Валю Абрамчык**, **Ганну Святоху**, **Ганну Цівуновіч**, **Наташу Башкевіч**, **Ірыну Жыдаловіч**! Здароўя, шчасця, удачы! *Рэгіна.*

Стаматолага **Алу Эдуардаўну Карзабій**. Доктар, з Калядамі і старым Новым годам! Здароўя, шчасця, поспеху. *Вашы кліенты.*

**Наталля Казіміраўна Радына**, з Новым годам! Здароўя, поспеху, удачы! Здароўя вашым дзецям! *Рэгіна.*

Кардыёлагу **Міхаілу Міхайлавічу Шаўлюку**. З Калядамі Вас і старым Новым годам! Поспеху, удачы і здаровага сэрца. *Вашы пацыенты.*

Віншуем з днём нараджэння **Валянціну Анатольеўну**! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, кахання. *Калегі па ЦМТ.*

Віншуем з днём нараджэння **Васіля Аляксеевіча Хамічэнку**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, удачы, даўгалецця. *Родныя.*

Віншуем з юбілеем **Святлану Фёдараўну Саўчыц**! Жадаем здароўя, жыццёвай энергіі, удачы, сямейнага шчасця. *Калегі.*

**Андрэя Нарэйку** з в. Бубны з днём нараджэння! Бог цябе няхай заўсёды беражэ, а зорка шчасця свеціцца твая бясконца! *Сям'я.*

З днём нараджэння!
**Святлане Аляксандраўне Астапенцы**



Милая мамочка, теща родная,
Бабушка добрая и дорогая!
От всей души, с большим волненьем
С которым слов не находя
Мы поздравляем с днём рожденья –
С 42-летием тебя!
Земной поклон тебе, родная мама,
За то, что ты на свете есть.
За доброту, за руки золотые,
За материнский твой совет
Тебе желают дети, внуки:
Живи, любимая, сто лет!

*Дачка, зяць, унучка Мая.*

З 70-годдзем! **Алімпіядзе Восіпаўне Васілевіч** з в. Даўжані Мядзельскага р-на. І мама шчодрая, і гаспадыня адмысловая, сёння хочам мы цябе павіншаваць, усяго найлепшага ў свеце пажадаць: каб лад быў у сям'і як тыя кветкі і толькі радасць прыносілі ўнукі і дзеткі, жыць-спажываць і здароўе захаваць. *Дачка, зяць, унукі.*

Віншую **гр. 46-ТК МПТ** і жадаю поспехаў на экзаменах! *Насця.*

## ■ ІМЯНІНЫ

**11 студзеня**
**Праваслаўныя**: Марка, Маркела, Феафіла.
**Каталіцкія**: Ганараты, Мацільды, Феліксa.

**12 студзеня**
**Праваслаўныя**: Аніссі, Фядоры, Зоціка, Макара.
**Каталіцкія**: Аркадзя, Багуміла, Бенядыкта, Часлава.

**13 студзеня**
**Праваслаўныя**: Маланні.
**Каталіцкія**: Веранікі, Багуміла, Гіляра.

**14 студзеня**
**Праваслаўныя**: Абразанне Гасподняе, Васіля (Новы год).
**Каталіцкія**: Гіляра, Фелікса.

**15 студзеня**
**Праваслаўныя**: Ульяны, Серафіма, Сільвестра.
**Каталіцкія**: Макара, Паўла.

**16 студзеня**
**Праваслаўныя**: Малахіі, Гардзея.
**Каталіцкія**: Ганараты, Маркела, Уладзіміра.

**17 студзеня**
**Праваслаўныя**: Ананіі, Анісіма, Апанаса, Архіпа, Арцёма, Астапа, Варнавы, Карпа, Клімента, Лукі, Марка, Нарцыса, Ніканора, Прохара, Радзівона, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Антона, Яна.

**18 студзеня**
**Праваслаўныя**: Рыгора, Міны, Міхея.
**Каталіцкія**: Малгажаты, Пятра.

# ЗНАЁМСТВЫ

Шукаю мужа. Калі вы Цялец, Казярог, Дзева або Рыбы, старэйшыя за 45 год, ростам вышэй за 170 см, пішыце. 222410, Вілейка, п/п МС 0847878.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!
Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** ②

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ ШАШКІ

# Радыёперахват

Шашкі, які і шахматы, з'яўляюцца вельмі універсальнай і даступнай гульнёй, калі сапернікам неабавязкова сядзець адзін супраць аднаго за дошкай ці шахматным столікам. Ёсць шмат формаў правядзення такіх паядынкаў. Сярод іх вызначаюцца завочныя спаборніцтвы. Самай старажытнай з'яўляецца гульня па перапісцы, калі была задзейнічаная паштовая сувязь. Тут адна партыя магла працягвацца некалькі гадоў, асабліва ў міжнародных турнірах, калі пісьмо ідзе да адрасата тыднямі. Першы ўспамін пра гульню па перапісцы ў шахматы адносіцца да 1694 года ў англійскага ўсходазнаўцы **Т. Хайда**.

Праводзіліся спаборніцтвы і з выкарыстаннем тэлеграфнай сувязі. Першыя партыі, згуляныя такім спосабам, адбыліся паміж амерыканскімі шахматнымі клубамі Вашынгтона і Балтымора ў 1844 годзе. Цяпер замест тэлеграфаў прымяняюцца тэлефаксы.

З канца XIX і да сярэдзіны XX стагоддзя былі папулярныя завочныя спаборніцтвы па тэлефоннай сувязі.

Масавым відам шахматна-шашачных спаборніцтваў з'яўляюцца таксама сеансы адначасовай гульні, дзе ўдзельнік адначасова гуляе супраць некалькіх сапернікаў. Як правіла, ён гуляе ўсе партыі белымі. Тут ёсць свае рэкорды. Адным з найбольш таленавітых гульцоў XX стагоддзя лічыцца кубінец **Х. Р. Капабланка**, які на працягу 40 год даў 491 сеанс, згуляўшы ў іх 13545 партый [+ (выйгрышы) 11912, - (пройгрыш) 570, = (нічые) 1063, 92% набраных ачкоў].

Вынік бесперапыннага сеанса адначасовай гульні (той, хто прайграе, саступае месца іншаму гульцу) у **В. Хуга** – 560 партый (+385, -49, = 126. 1979 г.). У 1984 годзе **В. Горт** згуляў ужо 663 партыі, з іх выйграў 80%. Гульня працягвалася 32,5 гадзіны.

У 1976 годзе неадназоны чэмпіён свету па шашках галандзец **Харм Вірсма** за 26 гадзін згуляў 470 партый у сеансе, які адбыўся ў Гаазе. Вынік Вірсмы: +433, -5, =32.

Адной з разнавіднасцяў сеанса з'яўляецца гульня ўсляпую, пры якой гулец аб'яўляе свае ходы, не гледзячы на дошку (па памяці). "Лягчэй нырaць і даставаць жэмчуг, чым гуляць такім чынам", – пісаў першы рускі шахматны майстар, а таксама аўтар першай выдадзенай у Расіі ў 1827 годзе шашачнай кнігі **А. Пятроў**.

Гулялі ўсляпую знакамітыя шахматысты **П. Морфі**, **Г. Пілсберы**. Рэкорднае дасягненне тут у **Я. Флеша**, які ў 1960 годзе ў Будапешце згуляў усляпую супраць 52 сапернікаў (+31, -3, =18). Сеанс працягваўся 13 з паловай гадзін. Сеансы, асабліва пры гульні ўсляпую, адбіраюць шмат фізічных і разумовых сіл і часта прыводзяць да нервовых узрушэнняў.

З пачатку XX стагоддзя пачалі праводзіцца завочныя спаборніцтвы па радыё паміж суднамі, якія знаходзіліся ў моры. У 1945–46 гадах праведзеныя шахматныя радыёматчы СССР–ЗША і СССР–Вялікабрытанія, а таксама першы радыёматч паміж шахматыстамі палярных станцый і маскоўскімі майстрамі.

1970 годзе была згуляная адзіная партыя паміж лётчыкамі-касманаўтамі станцыі "Саюз-9" **А. Нікалаевым** і **В. Севасцьянавым** і Зямлёй, якую прадстаўлялі кіраўнік падрыхтоўкі савецкіх касманаўтаў, генерал-палкоўнік **Н. Каманін** і лётчык-касманаўт **В. Гарбатко**. Партыя працягвалася 6 гадзін і скончылася ўнічыю. Пазней Севасцьянаў больш за 10 год узначальваў шахматную федэрацыю СССР. Лётчык-касманаўт **В. Аксёнаў** высока цаніў шашачную гульню.

Гадоў з 30 таму і мне давялося ўзяць удзел у адным з радыётурніраў, але згуляць удалося ўсяго адну партыю. Працаваў я тады дыспетчарам раёна электрычных сетак. У начную змену вольнага часу хапала. З дыспетчарскай службай маладзечанскага прадпрыемства электрасетак дзейнічала надзейная радыёсувязь. Іншы раз мал змена супадала са зменай заўзятага аматара шашак **Аркадзя Дудко** (дарэчы, яго жонка – **Тамара Дудко** – у той час працавала галоўным інжынерам Маладзечанскага піўзавода, пазней стала значным грамадскім і дзяржаўным дзеячам Рэспублікі Беларусь). Нам часта даводзілася тады разам выступаць у спаборніцтвах розных рангаў, і, каб павышаць сваё майстэрства, дамовіліся гуляць паміж сабой, карыстаючыся радыёсувяззю. У адну спакойную вячэрнюю змену ў эфір палящела не звычайная для не знаёмых з шашачнай натацыяй шыфроўка: 1. c3–d4 d6–c5 2. b2–c3 c7–d6 – і так далей да канца партыі.

Праз некалькі дзён А. Дудко паведамляе, што такім спосабам больш гуляць не будзем, бо атрымаў папярэджанне ад супрацоўнікаў камітэта дзяржбяспекі. Калі яны пачулі "перадачу інфармацыі кодам", то прaслухалі яе да канца. Пасля слова "нічыя" зразумелі, што крамолы тут не было.

А нам давялося яшчэ раз перачытаць "Інстукцыю па вядзенні службовых перагавораў па радыёстанцыі" і шукаць іншыя метады ўдасканальвання сваёй гульні.

Для самастойнага рашэння прапануецца мініяцюра:




Белыя пачынаюць і выйграюць. Таму, хто дашле правільны адказ, будзе ўручаны прыз – шашачная кніга. Жадаем творчых поспехаў.

А цяпер праверце адказ на задачу, змешчаную ў "РГ" за 14 снежня 2001 года.

1. d2–g5 b4:d2 (A) 2. c1:e3 f6:h6 3. e3–f4 e5:g3 4. a5–b6 g3-h2 5. f2–g1 h4–g3 6. b6–f2. Чорныя простыя запёртыя на палях g3 і h2.

(A) 1... f6:h4 2. a5–c7 b4:d2 3. c7:g3. Цяпер чорныя шашкі пазбавіліся хадоў на палях d2 і h4. Вельмі незвычайныя фіналы з запіраннем простых "на вісу".

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

■ СМАЧНА ЕСЦІ АД ІГАРА КІЦІКАВА

# Калядная гусь

Гэтая гісторыя адбылася год сем таму ў вілейскім рэстаране. Жанчына адзначала юбілей, а паколькі свята праходзіла напярэдадні "старога Новага года", галоўнай стравай была абраная "калядная гусь". Загадзя на кухню рэстарана даставілі вялізную гусь. Паўдня гусь скублі, фаршыравалі і смажылі. Нарэшце ў цэнтры сервіраванага стала з'явілася калядная гусь – птушка з залатой скурай, вакол яе ляжалі зялёныя яблыкі. Да пачатку банкету заставалася яшчэ паўгадзіны, таму павары, афіцыянты і нават швейцар сядзелі на кухні і пілі гарбату. Далей падзеі пачалі развівацца з хуткасцю кур'ерскага цягніка з фільма братоў Люм'ер. Калі швейцар выйшаў сустракаць наведвальнікаў, гусі на стале не было! Падноc, дзе была птушка, і нават яблыкі былі на месцы, а вось гусі не было! Затое з'явілася гаспадыня гусі. Першае, што яна спыталася, было: "Дзе гусь?".

А тым часам гусь ужо шукала міліцыя. Падрабязнасці пошукаў мне, на жаль, невядомыя. У выніку гусь знайшлася. "Пэнікоўскі" – так назвалі "гусінага злодзея" – сядзеў дома, піў гарэлку і закусваў гусіным крылом. Гуся даставілі ў рэстаран з чорнага ходу, разрэзалі на порцыі (каб не было відаць, што няма аднаго крыла) і падалі на стол, за якім ужо сабраліся госці. Гаспадыні патлумачылі, што гусь крыху перасмажылі, таму яна развалілася на кавалкі. На шчасце, гаспадыня была занятая гасцямі, таму не звярнула ўвагі на тлумачэнне повароў. Так скончылася эпапея з "каляднай гуссю".



Паспрабуйце і вы прыгатаваць "калядную гусь". Вось рэцэпт: **гусь нацерці ўсярэдзіне сумессю солі і часнаку, начыніць антонаўскімі яблыкамі, разрэзанымі на чатыры часткі, зашыць, паклaсці на бляху і паставіць у гарачую духоўку. Смажыць, паліваючы тлушчам, што выдзяляецца, 2–3 гадзіны.**

Толькі глядзіце, каб гусь не знікла, як знікаюць брамкі і вароты на "стары Новы год".

**Ігар КІЦІКАЎ.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

У мінулы раз прапанавалася адгадаць, што падарылі англійскія студэнты рускаму вучонаму **Івану Паўлаву**, калі ён атрымаў званне доктара.

Ну, натуральна, сабаку. Толькі не жывога, а цацачнага. Гэтую цацку падарыў **Чарлз Дарвін** – унук знакамітага вучонага, якому, дарэчы, у гэтай жа зале за 30 гадоў да Паўлава ўручалі цацачную малпу.

Правільна адказалі **Святлана Талайка**, **Юрый Мінец**, **Ірына Пісаронак**, **Юрый Юхневіч**, **Юрый Муркоў**, **Андрэй Цітоў**, **Віктар Грыгор'еў**, якіх запрашаю ў рэдакцыю па білеты ў кіно.

Конкурс прыпыняем да лютага – час здаваць сесію. Сустрэнемся!

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Студзень**



**Вялікая зала**

11–13 "**Дзевятая брама**", Францыя-Іспанія, містычны трылер 15-30, 17-30, 19-30, 21-30 (7 студзеня) 19-30, 21-30 (8 студзеня)

11–13 "**Шанхайскі поўдзень**", ЗША, прэм'ера, камедыйны вестэрн, Джэкі Чан 15-30, 17-30

14–20 "**Дзеці шпіёнаў**", ЗША, камедыя 15-30, 17-30, 19-30
"**Нават і не думай**", ЗША, камедыя 21-30

**Для дзяцей**

13 "**Барбі і Шчаўкунчык**" 13-00

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# «Дружалюбная» цешча

Адзін знаёмы ўзяў з сабой на работу нейкіх ледасек, каб паказаць сябрам.

Цешчы прыйшло ў галаву за нешта "насаліць" зяцю. Яна патэлефанавала яму на работу і сказала:

– Сёння з Ігаркам нешта не ўсё добра. З усмешкай пабег на работу, прыгаворваючы, што, нарэшце, з кімсьці "разбярэцца". Так што там з ім акуратненька.

Начальнік прыняў усё за чыстую манету, здагадваючыся, з кім Ігарок мог бы "разабрацца", і выклікаў да яго прыхоўную псіхушку і міліцыю. Пакуль разбіраліся з яго псіхічным станам, на работу Ігарок прыйшоў толькі праз некалькі дзён.

**Сямён БОНДАР.**

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Дыялог на навагоднім базарчыку. Прадаюць хвоікі. Пакупнік:
- Колькі каштуе?
- 5 тысяч.
- Шо ж так дарага?
- А шо ж вы хочаце? Елка цяпер 2 тысячы каштуе, а гэта - хвоя. Яна ж у вас да лета стаяць будзе, не абсыплецца.



■ **КРЫЖАВАНКА**

1. Месца, дзе стаіць гарадская ёлка. 2. Старадаўні спосаб марскога бою. 3. Афрыканская жвачная жывёліна. 4. Малады парастак. 5. Колькасць членаў сходу, прысутнасць на сходзе якой-небудзь арганізацыі, дастатковая для прызнання сходу правамоцным. 6. Чарадзейны Навагодні дзед. 7. Дзікая, звычайна, драпежная жывёліна. 8. Доўгая канаўка на паверхні зямлі, праведзеная плугам у час ворыва. 9. Той, хто займаецца публічным выкананнем твораў мастацтва. 10. Дарожка для пешаходаў па баках вуліцы. 11. Вадзяная пазваночная жывёліна. 12. Пацяпленне зімой пасля марозу.

**Ірына САХАЦКАЯ.**

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №1**

1. Падарунак. 2. Карапуз. 3. Завал. 4. Ларынгіт. 5. Торт. 6. Тройка. 7. Адрас. 8. Страва. 9. Авіятар. 10. Разец. 11. Цэзар. 12. Разлог. 13. Гарэлка. 14. Арэлі. 15. Імам. 16. Марына.



■ **НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ**

## Піць менш трэба

Паўгадзіны, як сустрэлі Новы год, праводзілі стары – усё, як у нармальных людзей.

Я сабраўся да таварыша на кватэру, дзе павінна было сабрацца нямала людзей. Выходжу на вуліцу, там ідзе святкаванне ў форме запуску ўсемагчымых ракет і выбухаў петардаў. Ля дарогі сядзіць мужык і робіць намаганні запусціць чарговую ракету (папярэдняя стартавала літаральна 10 секунд таму). З-за вугла выскоквае нейкі дробны сабачка і пачынае заўзята брахаць на мужыка. Мужык запаволена паварочвае ў бок сабачкі галаву(выпітае спіртное дае пра сябе знаць) і, поўны энтузіязму заваёўніка космасу, выдае:

– О-о-о! С-стрэлка! Зараз і цябе з-з-запусцім!!!

## За пільных суседзяў!

Расказаў знаёмы, які некалькі год таму паехаў працаваць у Маскву:

– Адбылася гэтая гісторыя мінулым летам. Я наймаю кватэру. І вось аднаго разу вярнуўся дадому, а замок у дзвярах не адкрываецца. Іду да гаспадыні. Гаспадыня гэтая, бабуля год 70–ці, адаслала тады свайго дзеда і пазней хацела сама падысці і праверыць, як там у нас справы. Дзед у яе слесар з вялікім стажам, вырашылі яму даверыць ламаць замок.

І вось стаім мы ля кватэры, дзед уставіў у замок адвёртку і па ёй дзяўбе сякерай. Грукат стаіць, зразумела, вялікі. Праз некаторы час высоўваецца сусед – вусаты такі мужык сярэдняга целаскладу – і пачынае цікавіцца, што гэта мы тут, уласна, робім. Дзед, цалкам захоплены працай, яму так і адказвае, што, маўляў, замок ламаем. Тады сусед пачынае цікавіцца, а хто гэта мы такія. Дзед здаецца, прапусціў усё міма вушэй і толькі буркнуў, што я яго сябар. Сусед жа пачынае нам расказваць, што ён занепакоены таму, што ў апошні час ходзяць чуткі пра бабку з дзедам, якія замкі ламаюць і абкрадаюць кватэры. Дзед быў увесь засяроджаны работай і адмахнуўся: "А бабка зараз падыдзе!". Пасля гэтай фразы сусед хуценька зачыніў дзверы і больш не надакучваў.

Зламалі мы дзверы, пасядзелі крыху, ну, і дзед з бабкай пайшлі дадому, а я вырашыў прыняць ванну. І толькі я пачаў распранацца, як у дзверы пазванілі. Адчыняю, а там нашыя байцы нябачнага фронту з аўтаматамі стаяць. Добра, што дзед з бабкай яшчэ недалёка адышліся і, калі ўбачылі міліцыю, вярнуліся. А то як бы я адзін даказваў, што я там жыву, калі ў мяне ні прапіскі маскоўскай, ні нават кантракта на сваё імя на гэтую кватэру няма, не ведаю.

Свядомыя ў нас некаторыя людзі бываюць, і міліцыя шустрая, але дзе яны былі, калі ў мяне гэтую кватэру абрабавалі за пару тыдняў да гэтага выпадку?

**Сямён БОНДАР.**

## Лечым ці калечым?

Раніца, 5-00. Маладзечанская гарадская паліклініка. Каля яе ўжо сабраўся натоўп. Людзі стаяць, чакаюць, калі адчыняць дзверы і пусцяць у памяшканне. Звычайна гэта адбываецца ў 6-00, а тут на акне аб'ява, чырвоным па белым: "Паліклініка адчыняецца ў 7-00". Людзі мерзнуць, але не разыходзяцца. Чакаюць, чмыхаюць насамі і выбіваюць нагамі чачотку, трэба ж талончык да доктара ўзяць, інакш не трапіш на прыём. Нехта збегаў дадому за рукавічкамі. Нарэшце, хтосьці пачаў грукаць у дзверы. Праз цемру ў дзвярах замаячыў вартаўнік, махаючы рукой убок. Народ вырашыў, што адчыняць і пусцяць з іншага ўвахода, і рушыў у абход. Але гэтага не адбылося. У 6-30 вартаўнік адчыніў. Уявіце, як былі здзіўленыя людзі, калі ўвайшлі і ўбачылі, што на лаўках ужо сядзіць жывая, доўгая чарга! Сапраўды, было смешна і брыдка, быццам, людзей падзялілі на "эліту" і "чэлядзь": адных пусцілі раней, а іншых прымусілі чакаць і мерзнуць.

**Таццяна СЕМАШКЕВІЧ.**

## Гараскоп 14 – 20 студзеня



**Авен** (21.03–20.04)

Будучая паездка можа абяцаць значную выгаду пры ўмове, што вы будзеце займацца справай, а не глядзець па баках. У іншым выпадку ёсць рызыка імклівага захаплення асобай супрацьлеглага полу. Непрадказальныя наступствы магчымага раману могуць пасварыць вас з бліжэйшым асяроддзем.



**Цялец** (21.04–21.05)

Асаблівай увагай у гэты перыяд будуць акружаныя жанчыны-Цяльцы: нават тыя з вас, хто не мае "дзяжурнага" паклонніка, абавязкова яго атрымае (хаця б на некалькі дзён). Аднак многіх мужчын палохае залішняя амбіцыёзнасць і самастойнасць прадстаўніц дадзенага знака. Так што ўсё можа скончыцца хутка.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Вашыя планы могуць рэзка памяняцца пасля атрымання нечаканай весткі. Рэкамендуем старанна праверыць крыніцу інфармацыі, таму што магчымае наўмыснае ўвядзенне вас у зман канкурэнтамі з мэтай падарваць ваш аўтарытэт або нашкодзіць у сур'ёзных пытаннях.



**Рак** (22.06–23.07)

Значныя перамены ў службовых справах запатрабуюць максімальнай увагі. На некаторы час вам трэба будзе забыцца на асабістае жыццё. Перамены будуць насіць, хутчэй, пазітыўны характар: адгукнуцца старыя дзелавыя партнёры, адновяцца некаторыя сувязі.



**Леў** (24.07–23.08)

Перыяд пройдзе пад знакам асаблівай увагі да сябе. Гэта будзе цалкам апраўдана: павышаная захворвальнасць, звычайная паслясвяточная дэпрэсія так ці інакш адцягнуць ад спраў. Таму самае разумнае, што вы можаце зрабіць, – гэта адкласці справы на тыдзень і адпачыць ад... адпачынку.



**Дзева** (24.08–23.09)

Другая дэкада студзеня дапаможа вам паспяхова дасягаць пастаўленых мэтаў і прыходзіць першым да фінішу. І гэта тычыцца не толькі спартсменаў. Вы наладзіце барацьбу нават там, дзе яна непатрэбная. Напрыклад, у асабістых узаемаадносінах. Таму накіруйце свае пераможныя сілы ў патрэбны бок.



**Шалі** (24.09–23.10)

Сапраўднае шчасце і спакой вы зможаце адчуць толькі ў сваёй сям'і. Глыбей схавайцеся ў сваю норку, не вылазьце з ініцыятывамі. Дзеці-Шалі ў гэты перыяд будуць мець патрэбу ў асаблівым бацькоўскім клопаце: не адпускайце іх далёка ад сябе, не крыўдзіце залішняй строгасцю.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Вы ніяк не можаце спыніць вечарынкі і сяброўскія сустрэчы. Аднак трэба звярнуць увагу на стан здароўя. Такі напружаны святочны графік можа кінуць вас на бальнічны ложак. Беражыце сілы. Больш стрыманыя Скарпіёны змогуць выбраць сярод патоку навінаў найбольш каштоўную інфармацыю.



**Стралец** (23.11–21.12)

Шмат дробных клопатаў, шмат мітусні і "левых" прапаноў, якія не столькі будуць садзейнічаць пераменам, колькі будуць выклікаць раздражненне і жаданне ўсё кінуць. Аднак у той жа час менавіта ў гэты перыяд вас чакае забаўны сюрпрыз, нечаканы і вясёлы.



**Казярог** (22.12–20.01)

Актывізацыя інтэлектуальнай дзейнасці. Вам захочацца пабыць сам-насам з сабой, заняцца стварэннем нейкіх новых схем у вашым жыцці або рабоце. У гэтыя дні магчымыя страты маёмаснага характару. Добры эмацыянальны стан можа быць азмрочаны чыста фізічным недамаганнем.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Невялікая перадышка ў рабоце, у час якой не варта адмаўляць сабе ў задавальненні прыемна бавіць час. Акрамя таго, чым больш у гэты перыяд вы будзеце сустракацца з людзьмі, тым больш энергіі зможаце назапасіць. Не варта займацца перамовамі, асабліва з замежнымі партнёрамі.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Добры настрой, станоўчыя эмоцыі і прыемныя сустрэчы магчымыя, на жаль, толькі... не дома. Самае правільнае рашэнне – узяць невялікі водпуск і адправіцца далей з родных сцэнаў. У справах некаторы застой. Дарэчы, пасля святаў гэта ўласціва не толькі вашаму знаку. Мужчыны нечакана ўспомняць, што яны самыя пяшчотныя "лавеласы" і заваююць шмат сэрцаў.



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8340 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№2 (351) 11.01.2002**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 10.01.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»**